У гэтым нумары 6 страніц.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| | | |
|---|---|---|
| **Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:** Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | **Цана абвестак:** перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |

№. 4 — Вільня, Пятніца, 23-га красавіка 1926 г. — Год I.

**Камісар Ураду на м. Вільню сканфіскаваў № 3 „Беларускае Справы“ з 22 красавіка за стацьці: „Безработныя“ і „Да сьвяткаваньня I-га мая“.**

## Крызіс парлямантарызму.

Польскія манархісты трыумфуюць. Дый не дарма: ёсьць чаго!

Сталася вось што. З прычыны выхаду з складу ўраду пана Скшыньскага абодвух пэпээсаўскіх міністраў—Земенцкага і Барліцкага, галава ўраду і ўсе другія міністры падаліся ў адстаўку. Яны зусім справядліва — згодна з прынятым ува ўсіх парлямантах сьвету звычаем—разважалі, што ўрад п. Скшыньскага атрымаў даверые Сойму толькі *як цэласьць, у поўным сваім складзе*, бо-ж—іменна дзякуючы таму, што ў ім былі прадстаўнікі сацыялістаў, парляманцкая фракцыя ППС падала за яго свае галасы і гэтак вырашыла пытаньне аб даверыі на карысьць утворанага панам Скшыньскім габінэту. Ясна, што ўрад у сучасным *няпоўным* складзе ўжо *не прадстаўляе таго, за што галасаваў Сойм.* Ясна, што ён ужо й ня ўрад.... Вось-жа аб гэтым пан Скшыньскі, як эўрапэйскі палітык, заявіў пану Прэзыдэнту Рэспублікі, падаючы яму просьбу аб сваей і сваіх калегаў адстаўцы.

Але тут якраз і пачынаецца тое, што так усьцешыла польскіх манархістаў. Пан Прэзыдэнт, выслухаўшы матывы п. Скшыньскага, *адстаўкі яго ня прыняў і загадаў старому ўраду далей працаваць*, як быццам нічога ня сталася—з увагі на патрэбу правясьці ў Сойме бюджэт на май, дый ня веручы ў магчымасьць хуткага стварэньня новага ўраду, які меў-бы даверые большасьці Сойму і на пару правёў-бы бюджэт.

Гэта ў гісторыі парлямантарызму нябывалы дагэтуль крок. Пасол Дашыньскі (пэпэсавец) рашуча заявіў з гэтае прычыны, што „кожын цывілізаваны манарх або галава гаспадарства ў гэткім палажэньні, якое ўтварылася ў нас пасьля развалу коаліцыі, паступіў-бы так: прыняў-бы адстаўку ўраду і загадаў-бы адстаўленаму прэм‘еру часова выпаўняць абавязкі галавы ўлады ў габінэце, зложаным з кіраўнікоў міністэрстваў, пакліканых спаміж найвышэйшых урадоўцаў гэных міністэрстваў“. Вось, такі часовы ўрад, па думцы пэпээсаўскага пасла, і мог-бы правясьці ў Сойме бюджэт на май, і ніхто проці гэтага не пратэставаў-бы.

Проці трываньня ўраду п. Скшыньскага без коаліцыі выступаюць і другія соймавыя клюбы. Так, Сялянская Партыя (Stronnictwo Chłopskie) пастанавіла паразумецца з другімі клюбамі соймавае лявіцы і разам пайсьці да п. Прэзыдэнта, каб зьвярнуць ягоную ўвагу на *небясьпеку*, на якую наражаецца дзяржава ад істнаваньня такога ,,ўраду - тулава“ (—з адсечанай галавой!) — *пры сучасным катастрафальным палажэньні дзяржаўнае гаспадаркі.* Гэтае супольнае выступленьне клюбаў польскае лявіцы будзе прадстаўляць рашучы пратэст проці спробаў захаваньня такога ўраду,—піша орган польскіх дэмакратаў „Kurjer Wileński“.

Урэшце, газэты зварачаюць увагу на тое, што ў той-жа дзень, як п. Прэзыдэнт адкінуў просьбу старога габінэту аб адстаўцы, да яго прыяжджаў п. Маршалак Пілсудскі, які, паміж іншым, яшчэ раз перасьцерагаў пана Прэзыдэнта, *каб не дапускаў да ўлады ген. Сікорскага...*

Як відаць, польскі парлямантарызм перажывае цяжкі крызіс: паводле ацэнкі і манархістаў, лявіцы, і акт п. Прэзыдэнта трэба разглядаць, як *канфлікт з прынцыпамі, якія зьяўляюцца падставовымі ў жыцьці Сойму.* Ведама, буржуазная прэса апраўдывае паступак п. Прэзыдэнта на тэй падставе, што яго змусіла да гэтага „дзяржаўная патрэба“ — чытай: ня толькі гаспадарчая катастрофа, аб якой кажа лявіца, але і набліжаючыся дзень 1 мая з спадзяванымі работніцкімі выступленьнямі, дзеля барацьбы з якімі найлепш і надаецца ўжо *чыста правіцовы ўрад „тулава“*. Але хто можа цяпер прадбачыць, куды завядзе Польшчу гэты крызіс Сойму, — хто можа сказаць наперад, ці ня будзе гэта першым крокам да новае эры ў Польшчы — *бяз Сойму наагул?!*

## Зямля і сялянства,

Зямельнае пытаньне ў праграмах ўсіх радыкальных партыяў вырашаецца дужа проста: зямля павінна перайсьці на ўласнасьць народу бяз ніякае сплаты за яе абшарнікам і падзелена між беззямельнымі і малазямельнымі сялянамі бяз ніякае выкупное платы. Ведама, паскольку справа йдзе аб разьвязаньне зямельнага пытаньня ў Заходняй Беларусі (у Усходняй яно ўжо вырашана!), дык да гэтае агульнае формулы ўсе беларускія групы дадаюць засьцярогу, што зямля мусіць быць падзелена **толькі паміж тутэйшымі сялянамі** — пры аднячаснай ліквідацыі чужацкага асадніцтва звонку.

Бясспрэчна, разьвязаньне ў нас зямельнага пытаньня гэткім радыкальным способам мае перад усім **рашаючае** значэньне з **палітычнага і нацыянальнага** пункту гледжаньня: гэта—ўдар усемагутнай у нас сяньня польскай зямельнай буржуазіі, поўная ліквідацыя істнаваньня яе, як эканамічнае і палітычнае сілы ў краю, урэшце — як сілы, дэнацыяналізуючае нашае каранное беларускае насяленьне на карысьць польшчыны. Вось чаму польскія партыі, навет і згаджаючыся на падзел дворных абашараў між сялянамі, як да прыкладу пэпээсы і вызваленцы, каб не дапусьціць да аслабленьня польскіх нацыянальных уплываў у Заходняй Беларусі, правялі праз Сойм і рашуча падтрымліваюць усемі способамі польскае асадніцтва, слушна кажучы, што ня будзе страты для польскіх уплываў на нашу вёску, калі замест панскага двара вырастуць дзесяткі асадніцкіх хутароў! І вось у гэтым выяўляецца тая прорва, якая робіць немагчымым супрацоўніцтва беларускага працоўнага сялянства з названымі польскімі арганізацыямі.

Падыходзячы да ацэнкі **эканамічна-сацыяльнага значэньня** падзелу зямлі між сялянамі і **вынікаў** гэтага падзелу, трэба проста сказаць, што — пры ўсім радыкалізьме гэтае меры — зьдзейсьненьне гэтага нашага ўсенароднага дамаганьня **само па сабе** не разьвяжа на вечныя часы ўсіх балячак жыцьця вёскі. Праўда, у першыя гады дабрабыт вёскі бясспрэчна нязвычайна падымецца. Дзіва: то-ж усе тыя сяляне, працай якіх жывуць сучасныя валадары абшараў, на якіх сялянства працуе, кормяць ня толькі сябе, але і гэных паноў і вялізарную масу ўсялякіх панскіх служак! **Падзел зямлі аддае ў рукі працоўнага сялянства ўсё тое, што сяньня праядаюць абшарнікі.**—Але зямля пасьля яе падзелу здолее зьмясьціць **толькі гэтульні народу, скольні на ёй працуе і сяньня.** Дый то забясьпечаньне зямлёй усіх надзеленых будзе **дужа невялікае:** лішняе зямлі ў Заходняй Беларусі няма! Вось-жа ўзьнімаецца пытаньне: а што-ж будзе цераз гадоў 15—20, калі падрастуць новыя пакаленьні сялян? Бо-ж **рост выдайнасьці зямлі шмат адстае ад росту насяленьня,** а паводле навуковых досьледаў, прырост насяленьня сярод беларусаў у год дае на тысячу душ—20 новых*). І калі частка гэтага прыросту знойдзе сабе працу дома ў сувязі з разьвіцьцём розных сельска-гаспадарчых промыслаў, дык куды падзенецца рэшта?

Той факт, што такое пытаньне мусіць паўстаць перад намі няўхільна, паказуе найлепш, што **сялянскае пытаньне не пакрываецца зямельным пытаньнем,** што яно шмат шырэй, чым сама зямельная справа. І аб вырашэньні гэтага пытаньня найбліжэйшае будучыны мусіць паважна падумаць і знайсьці адказ на яго кожын, хто запраўды шчыра ходаецца за інтарэсы працоўнага сялянства.

Адказ-жа на пастаўленае пытаньне так сама няўхільна **прывядзе селяніна да работніка,** зьвяжа сялянскую справу з справай работніцкай, увядзе сялянства ў вялізарную сям‘ю ўсіх працоўных наагул.

Запраўды-ж: у працягу 63 гадоў ад мамэнту скасаваньня прыгону і надзяленьня сялян зямлёй (—хоць і за выкуп!)—мы бачылі, як драбнелі нашыя сялянскія гаспадаркі, як яны паволі меншалі і даходзілі да $^1/_4$, $^1/_6$, а то і $^1/_{10}$ часьці поўнага надзелу. Але і такое драбленьне зямлі не магло даць нарастаючым пакаленьням магчымасьці выкарыстаць свае сілы на ральлі: мы бачылі, якой шырокай хваляй **плылі сялянскія сыны з вёскі ў места,** бачылі, як гэныя нашыя эмігранты—вяскоўцы ператвараліся ў мястовых работнікаў, і дзеці іх мо‘ ўжо й ня бачылі ніколі роднае вёскі! Але такая эміграцыя з вёскі ў места дзеля заробку была магчыма толькі тады, калі места расло, калі ў ім разьвівалася прамысловасьць, будаваліся новыя фабрыкі і заводы, пашыраліся старыя. Ня будзь гэтага, дык і для вясковых эмігрантаў у месьце не знайшлося-бы ні мейсца, ні заробку, як няма ў сучаснай Польшчы, зруйнаванай эканамічна і фінансава.

У сучаснай капіталістычнай Польшчы эканамічны крызіс у значнай меры вынікае з таго, што ўласьнікам фабрык і заводаў іх прадпрыемствы даюць **меншы даход** на ўложаныя ў гэныя прадпрыемствы грошы, чым можна дастаць недзе ў другім месцы — ці то аддаючы грошы на працэнты, ці перанесшы фабрыкі ў другую дзяржаву. Гэтым і тлумачыцца факт, што з Лодзі, Беластоку і іншых вялікшых прамысловых цэнтраў **фабрыкі з машынамі і капіталамі эмігруюць**—перабіраюцца заграніцу (прыкладам у Румынію), дзе **можна зарабіць больш.** Але нашы работнікі разам з імі не эмігруюць: папросту, іх ніхто на новае мейсца з сабой не забірае! І вось, каб паны фабрыканты не ліквідавалі і ня вывозілі сваіх фабрык заграніцу, работнікам прыходзіцца ці то згаджацца працаваць замест васьмёх гадзін у дзень — па дзесяць, ці йсьці рабіць за меншую плату, чым за якую можна пражыць,—значыцца, трэба **працаваць галадаючы...**

Падумайце цяпер і скажэце самі: ці сяляне, сыны якіх мо‘ працуюць цяпер і напэўна будуць працаваць некалі ў будучыні ў месьце, зацікаўлены ў работніцкіх справах, ці не? Ці важна для іх тое, каб прамысловасьць не залежала-бы ад волі ці прагавітасьці паасобных адзінак ды была ў руках самых работнікаў. Дый ці-ж ня ясна, што прадстаўнікі мястовае буржуазіі, пакуль мецімуць сілу, не пазволяць сялянству „пакрыўдзіць“ абшарнікаў?!

Ды **бязумоўна так!** Вось, зусім так сама зацікаўлены і мястовыя работнікі ў тым, каб была зламана моц зямельнае буржуазіі—шляхам падзелу зямлі між працоўным сялянствам, бо-ж абшарнікі—гэта найлепшыя і найвярнейшыя саюзьнікі фабрыкантаў у змаганьні апошніх з працоўнымі, пасягаючымі на „сьвятое права прыватнае ўласнасьці“! Вось чаму ў кожнай работніцкай праграме мы заўсёды знаходзілі і знаходзім асобны пункт аб вырашэньні зямельнага пытаньня **на карысьць сялянства.** Вось чаму навет варожая да работнікаў (—бо-ж яны ў Заходняй Беларусі ня ўсе беларусы!) „клясава-сялянская“ партыя п. п. Рагулі і Ярэміча ў сваей праграме гаворыць аб дамаганьнях і работнікаў...

Які-ж вывад з усяго сказанага?

Вывады два: першы — той, што **падзел зямлі між сялянамі не вырашае йшчэ сялянскага пытаньня да канца;** другі—што іменна дзеля гэтага **сялянства кроўна заінтэрэсована ў сацыяльнай перамозе працоўных места над капіталам,** што селянін без работніка і работнік без селяніна ніколі ня здолеюць зьдзейсьніць сваіх найвышэйшых ідэалаў.

**Г. Б.**

*) Родзіцца 45, памірае—25 (гл. Геагр. Беларусі А. Смоліча).

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# Замах справа ці замах зьлева?!

„Kur. Poranny“ падаў сэнсацыйную вестку аб тым, быццам, спадзяючыся хуткага краху сучаснай хіена-пяста-пэпэсаўскай коаліцыі, да Закапанага зьехаліся галоўныя павадыры польскай правіцы разам з Вітасам і ген. Сікорскім, каб абгаварыць плян новага ўраду ці—замаху...

На чале новае ўлады меў бы стануць генарал Сікорскі.

Новы ўрад, дзякуючы „здрадзе“ пэпэсаў, страціў-бы апошнюю падставу ў соймавай „лявіцы“ і стаўся-бы ўжо саўсім адкрыта, бяз усякіх „сацыялістычных“ аздобаў, варожым працоўвым масам...

Дзеля гэтага новы ўрад ген. Сікорскага меў-бы **характар зусім яўнай ваеннай дыктатуры рэакцыйнай буржуазіі, ці папросту—быў-бы спробай польскага фашызму захапіць уладу.**

Як ведама, аб гэткай спробе даўно ўжо лятуціць польская буржуазія, для якой Мусоліні зьяўляецца цяпер—падвойным богам і прарокам: ён і—абаронца ад Нямеччыны, ён і — пагромца працоўных...

Як ведама, спробу гэткага перавароту ген. Сікорскі рабіў ужо ў гэтай восені—пасьля адстаўкі ўраду Грабскага, калі маршалак Пілсудскі, раптам зьявіўшыся да прэзыдэнта Войцеховскага, вельмі рашуча „перасьцярог“ яго перад назначэньнем за ваеннага міністра таго-ж Сікорскага,—бо інакш войска—маральна „ня вытрымае“... Іменна тады ген. Сікорскі сьпешна пачаў склікаць да Варшавы „верныя яму“ вайсковыя часьці... Але яго тады „здзьмухнулі“ самога з Варшавы, дык спроба не ўдалася...

Цяпер ён з сваімі апякунамі ізноў быццам хоча спрабаваць шчасьця...

Ці да гэтага дойдзе? А вось разглядзімся ўважней навакол сябе.

---

Трэба сцьвярдзіць, што сучасная эндэцка-пэпэсаўская хэўра, якая ані ўтрымацца, ані разьбіцца ня хоча дый ня можа, будзе ўсе роўна разьбіта—з аднаго боку галяпуючым фінансавым крахам Польшчы, з другой — уздымаючыйся актыўнасьцю безработных працоўных масаў.

Ня слухаючы пацяшаючых заяваў мін. Зьдзековскага, газэты пішуць, што ўжо на сьвята працоўных на—1 мая—польскі ўрад здолее выплаціць сваім працаўнікам толькі траціну іх пэнсіяў, або—змушаны будзе пачаць... друканьне паперак (інфляцыю).

А калі крахне злоты, ці калі яго ня хопіць у касах скарбу, тады магчымы самыя неспадзяваныя комплікацыі. Дык, як ні круці, а ўсё роўна — прыдзецца польскім фашыстам зрабіць сваю апошнюю „спробу“... Прыдзецца перадусім хаця-б дзеля таго, што, калі ня зробіць гэтага генарал Сікорскі з **„сваей правай паловай“** польскага войска, дык зробіць яе маршалак Пілсудскі — з **„сваей левай паловай“** арміі...

Аб гэтым апошнім „замаху“ гаворыцца ў Польшчы адкрыта ўжо даўно.

На магчымасьць яго паказуе ўсё ўзмагаючаяся „энэргія“ і рашучы тон усіх заяваў, адчытаў, лістаў, перасьцярогаў ды пагрозаў п. Пілсудскага. Паказуе і дзіўная пакорнасьць яго волі ня толькі ваеннага міністра, генарала Жэліговскага, але і—самога пана Прэзыдэнта Рэспублікі—Войцеховскага...

---

Гэткім чынам абедзьве магчымасьці адчынены, так сказаць,—у абодва бакі: направа і налева.

Але ўсё-ж такі паўстае няменш цікаўнае пытаньне, якая-ж з абедзьвюх „магчымасьцяў“—бліжэй да зьдзейсьненьня? Каторы з двух кандыдатаў у польскія дыктатары мацнейшы?

Кандыдат буржуазнае правіцы—ня толькі нядаўна крэпка пабіты і адсунуты ад улады, але амаль што не „на сьмерць“ скампрамітаваны выкрыўшыміся страшэннымі надужыцьцямі ў ваенным міністэрстве, якія пладзіліся ў часе ягонага там урадаваньня...

Далей, „правая палова“ польскай арміі, падстава ген. Сікорскага, вельмі моцная на „вярхах“, сярод вышэйшага афіцэрства (генаралітэту), але—значна слабейшая за левую—ў нізох...

Але галоўная слабасьць гэтага польска-францускага Чанг-Тсо-Ліна—ў тым, што яшчэ нядаўна такая моцная, дый так моцна стаяўшая за яго, як і за Польшчу, Францыя цяпер і сама неяк астудзілася ў сваіх пачуцьцях да Польшчы дый—рашуча адсунута ад уплываў у Польшчы новай пратэктаркай **Англіяй**... Англія-ж, як вельмі падобна да праўды пішуць і кажуць, — „падтрымлівае“, можа і вельмі **рэальна**,—Пілсудскага.

А ведама ж, што „падтрыманьне“ звонку і ў сучаснай, як было калісь—ці і ў даўнейшай, няменш слаўнай, Рэчыпаспалітай, як было так і ёсьць—рашаючым...

---

Чаго-ж спадзявацца ад **удачы п. Пілсудскага?**

Першым чынам—п. Пілсудскі дарэшты зьнішчожыць ледзьве дыхаючую „буржуазную“ польскую валюту, бо пэўна-ж ня будзе так шкадаваць аддыхнуўшыя ўжо добра друкарскія машыны, як гэта пакуль-што рабілі Грабскі ды Зьдзеховскі...

Што датычыць арміі, дык, калі Маршалак Пілсудскі з трыумфам вернецца ў яе, як яе Вярхоўны Павадыр, ці... як слон у шклявую краму, дык даволі будзе некалькіх тыдняў яе „мірнага жыцьця“, каб гэты слон пабіў усё судзьдзе...

Бо—недарма-ж у польскай арміі гаспадаравалі ўжо каля трох гадоў і панасаджалі сваіх людзей „антыпілсудчыкі“: Сікорскія, **Гальлеры**, Шэптыцкія ды шмат іншых аўстрыяцкіх штабавікоў, якіх так ненавідзіць—узаемна—п. Пілсудскі!..

Але, калі палова арміі стаіць за іх, а другая палова—проці іх, дык акурат — адна палова так зьесьць другую, як тыя львы ў казцы, што і хвастоў не пакінулі...

---

Але можа ўсе-ж такі п. Пілсудскі здалее нешта даць шырокім масам працоўнага люду ў месьце ці на вёсцы?

Адкажам і на гэтае пытаньне.

П. Пілсудскі з сваей „лявіцай“ у Сойме ды арміяй у Краі ў працягу 5—6 гадоў меў ужо раз вялізарную, амал нічым не абмяжованую ўладу ў Польшчы. Дык, значыць, **мог** тады зрабіць усё, што хацеў. Мог тады „Начальнік Дзяржавы“ Пілсудскі даць працоўным у Польшчы ўсё тое, што лічыў для іх патрэбным. Дык вось трэба сьпярша адказаць на пытаньне, **што ён даў тады**, а тады ўжо лёгка будзе адказаць і на пытаньне, чаго ад яго спадзявацца цяпер. Бо, як кажуць французы, — найхарашэйшая дзяўчына ня можа даць больш таго, што мае сама.. Дый, ведама,—кахаючы першы раз, дае найбольш...

Чаго-ж **хацеў** тады і **што даў** народу тады Пілсудскі?

„Я пайду з маімі арміямі на Усход так далёка, **як захачу**“... Вось чаго **хацеў** тады Пілсудскі... Дык і даў працоўнаму народу толькі і выключна тое, чаго хацеў, што мо' найбольш любіць сам: **Вайну, Бойню, Кроў**, кінуўшы ўкаханы „польскі люд“ на ратаваньне польскага абшарніцтва ў **Польшчы ды на Усходзе...**

Пілсудскі даў Польшчы толькі армію ды вайну, якія аднachасна і стварылі, разбудоўваючы панад стан, сучасную панскую дзяржаву, і—зьяўляліся першай і галоўнай прычынай руйнаваньня ды развалу гэтай па-над стан разбудаванай дзяржавы...

Ці-ж усяго толькі гэтае?—Толькі!

Пілсудскі любіць раўнаваць сябе з Напалеонам... Можа, яны крыху й падобны, прынамся абодва—не шкадавалі чалавечай крыві... Але вялізарная розьніца між імі ня толькі ў тым, што Напалеон—геній і ваенны, і цывільны, але яшчэ і ў тым, што Напалеон, зьявіўшыся **пасьля Вялікай Францускай Рэвалюцыі, увасобіў у сабе ўсю яе сілу—зьдзейсьніў ды ажыцьцявіў шмат з яе ідэяў і лёзунгаў.**

П. Пілсудскі—„Напалеон і бяз генія і без рэвалюцыі“, што — папросту псыхолёгічная дый гістарычная недарэчнасьць... Папросту — пасьля „вялікай вайны“ ў сазюзьніцаў асталося шмат непатрэбнага ўжо ім старога аружжа ды амуніцыі, дык і далі пасьля пабеды „вялікія“, каб „пабавіліся ў вайну“ меншыя, заадно падбіўшы чым больш наагул і заўсёды небясьпечную для „Захаду“ Расею...

---

Пасьля ўсяго сказанага — ясна, што п. Пілсудскі можа даць і цяпер—**толькі і выключна Вайну.**

Але цяпер—каму-ж ня ясна?! — гэтая вайна ўжо толькі даканчыла-б тую руіну дзяржавы, якой той-жа п. Пілсудскі не пасьпеў неяк давясьці да канца вайной 1920 г., — бо тады „перашкодзіла“ Францыя... Цяпер—мо' дапаможа Англія?!

Цяпер п. Пілсудскі можа, як унутры, так і вонках, згуляць толькі „гістарычную ролю“ Керэнскага...—Польская армія мо' і пойдзе за ім на фронт, ведама ж—на „Усходні фронт“... Але—ці не пачнецца там тое-ж, што было і ў часе Керэнскага: б р а т а н ь н е працоўных?!...

Што гэткую „спробу“ — апошнюю спробу!—можа і захоча зрабіць з Польшчай п. Чэмбэрлен... перапрашаю: хацеў сказаць: п. Пілсудскі, — гэта можа і вельмі падобна да праўды...—Бо—-ці ж не ў зьвязку з гэткімі шырокімі агульнымі плянамі „паходу на ўсход“ заварушыліся раптам і расейскія манархісты, выбраўшы сабе ўжо—акурат, як у часе вайны!—і „Аўгусьцейшага Вярхоўнага Камандзіра“?!

---

Яшчэ пару слоў на заключэньне.

Калі запраўды Гісторыя мае ўжо жаданьне паставіць у Польшчы „апошнюю стаўку на Піл-

---

# З падарожы па Радавай Беларусі.

## Каапэрацыя і банкі

У жыцьці і будаўніцтве новага ладу каапэрацыя бязумоўна адыграець вялікую ролю. Усе Радавыя Рэспублікі пакрыты цэлай сеткай каапэратыўных таварыстваў. Няма ніводнага сельсавета, каторы ня меў-бы каапэратыву і некалькі крам у вялікшых вёсках. Пакуль-што каапэрацыя толькі-што выходзіць са стадыі арганізацыі, але ўжо і сягоньня, пры дапамозе Ураду, выганяець з рынку прыватны гандаль. Амаль што ня кожны грамадзянін-гаспадар зьяўляецца пайшчыкам. У 1925 годзе агульны лік пайшчыкаў-спажыўцаў складаўся з 52.520 чалавек. Пай спажывецкай каапэрацыі—3 рублі, а сельска-гаспадарчай 5 руб. Кіруюцца каапэратывы ўправамі, якія выбіраюцца на агульным сходзе. Паасобныя каапэр. злучаюцца ў районныя саюзы, а апошнія—у Цэнтра-Саюзы Рэспублік, якія у сваю чаргу маюць агульны ўсесавецкі цэнтр. Крэдытуюцца праз Каапэратыўны Банк, сябрам якога павінен быць кожны каапэратыў. Пай Каапэр. Банку складае 100 руб. Дзеля крэдытаваньня паасобных сялян на паправу гаспадаркі, як я ўжо ўспамінаў, істнуець Сельска-Гаспадарчы Банк. Сябрамі і гэтага Банку ёсьць ня прыватныя асобы, а сельска-гаспадарчыя каапэр. і крэдытныя т-вы, якія ад сябе крэдытуюць сялян.

## Асьвета.

Знаёмячыся з пастаноўкай асьветнай справы, прышлося спаткаць і пабачыць шмат новага.

Ужо самае ўвядзеньне камплекснай сыстэмы навучаньня зьмяняець старыя мэтады і праграму. Да гэтага трэба дабавіць яшчэ зусім новыя, у нас нябачаныя, узаемнаадносіны паміж настаўнікамі і вучнямі. Настаўнік—гэта старшы таварыш, а не начальнік, і яго справа—накіроўваць дзяцей на той шлях, па якому павінна ісьці іх разьвіцьцё. Пры кантролі веды ў дзяцей настаўнік вызывае вучня, а дзеці задаюць яму пытаньні з данага курсу, настаўнік-жа кантралюець і папраўляець гэтыя пытаньні, як і адказы на іх.

Першы тып школы—гэта 4-х годка. Гэта прототып старага народнага вучылішча пры адным настаўніку. Зусім не адпавядаець ні новай праграме, ні новаму мэтаду навучаньня. Памаленьку маняцца гэтыя школы ліквідаваць, а перайсьці на 2-х камплектныя школы з тым рашчотам, каб на кожнага настаўніка выпадала ня больш як 2 групы. Як пераходны мамэнт, дапускаюцца часова аднакамплектныя школы па тры гады навучаньня.

Ясна, што нарэшце і „мужыцкая“ беларуская мова знайшла сабе пачэснае мейсца ў **сваей** Рэспубліцы, як мова дзяржаўная і як мова значнай большасьці насяленьня. Таксама зразумела, што і школа ў роднай мове мае вялікае значэньне, асабліва ў пачатковых школах. Прынцып вучыць дзяцей у „матчынай мове“ прыняты, як асноўны прынцып, ва ўсіх Радавых Рэспубліках. Вось дзеля чаго мы бачым на Беларусі такі малюнак школ нацыянальных.

Сучасная сетка чатырохгадовых працоўных школ па прынцыпе матчынай мовы падзяляецца на:

| Назоў акругі: | Падзел чатырохгадовых школ па мове выкладаньня: | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Белар. | Жыд. | Расейская | Польская | Латв. | Эстон. | Ням. | Усяго |
| Менская . . | 438 | 12 | — | 9 | — | — | — | 459 |
| Мазырская . | 252 | 10 | — | 3 | — | — | 1 | 266 |
| Слуцкая . . | 211 | 9 | — | 14 | — | — | — | 234 |
| Барысаўская | 328 | 12 | 1 | 17 | — | — | — | 358 |
| Бабруйская | 362 | 16 | 6 | 14 | 1 | — | — | 399 |
| Віцебская . | 438 | 12 | 27 | 14 | 5 | 1 | — | 497 |
| Полацкая . | 302 | 2 | 11 | — | 2 | — | — | 317 |
| Калінінская | 390 | 2 | — | 1 | 1 | — | — | 394 |
| Магілёўская | 485 | 7 | — | 16 | 2 | — | — | 504 |
| Аршанская | 327 | 5 | — | 6 | 1 | — | — | 339 |
| Усяго . | 3.533 | 87 | 45 | 94 | 12 | 1 | 1 | 3.767 |

Пераважная большасьць беларускіх школ паўстала з расейскіх, і дзеля гэтага замена прахадзіла і праходзіць паступова. Напрыклад, у той частцы Беларусі з Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Смаленшчыны, якая нядаўна далучылася, досіць многа школ маюць яшчэ толькі першы год навучаньня пабеларуску. З ніжэйпаказанай табліцы ясна відаць, сколькі школ перайшло зусім на беларускую мову і сколькі часткова:

| Назаў акругі: | Усяго беларускіх школ чатырохгодак | Пераведзена на беларускую мову выкладаньня | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Усе 4 гады | Толькі 3 гады | Толькі 2 гады | Толькі 1 год |
| Менская . . . . | 438 | 438 | — | — | — |
| Мазырская . . . | 252 | — | 208 | 44 | — |
| Слуцкая . . . . | 211 | 211 | — | — | — |
| Барысаўская . . . | 328 | 240 | 7 | — | 81 |
| Бабруйская . . . . | 362 | 86 | 98 | 164 | 14 |
| Віцебская . . . . | 438 | — | — | — | 438 |
| Полацкая . . . . | 302 | — | — | 66 | 236 |
| Калінінская . . . | 390 | — | — | 390 | — |
| Магілёўская . . . | 485 | 18 | 1 | 2 | 464 |
| Аршанская . . . . | 327 | 6 | 25 | 215 | 82 |
| Усяго . . . . | 3533 | 1005 | 333 | 881 | 1315 |

Апрача 4-х гадовых працоўных школ, істнуюць яшчэ і сямі гадовыя. Дзеляцца яны па сваей праграме на першы і другі концэнтры. Першы — гэта тое самае, што і чатырох-годка; другі концэнтр—зьяўляецца яго прадаўжэньнем. У сямігодцы заканчываецца агульная адукацыя ў школе, а далей ідзе ўжо спэцыяльная асьвета 2 клясы 9-ці годкі, дзе агульная адукацыя прытарнавана да тэй ці іншай спэцыяльнасьці.

Усяго беларускіх сямігодак у Радавай Беларусі ёсьць 190, жыдоўскіх 42, расейскіх 29, польскіх 5, латышскіх 1. Таксама, як і ў чатырохгодках, ня ўсе клясы ўспомненых сямігодак перашлі поўнасьцю на беларускую мову. І тут выяўляецца тая асаблівасьць, што ў навадалучаных правінцыях у сямігодках толькі першы ці другі год навучальныя ідзець у беларускай мове.

судскага“, дык з гэтага ясна відаць, што гэтай наравістай паві аканчальна надаела ўжо вэрсальская неразьбярыха, якая цягнецца ўжо залішне доўга, дый якую Гісторыя, шкадуючы свайго часу, пастанавіла ўжо раз назаўсёды — спыніць дый усё...

Дык вось, на гэткую якраз ролю „Напалеона бяз генія і рэвалюцыі“ (ці мо‘ лепш: да рэвалюцыі?!)—як быццам на спэцыяльны заказ! — і зроблены п. Пілсудскі...

---

Дык наш аканчальны вывад: п. Пілсудскі мае мець голас! Мае мець уладу ў Польшчы! Польскі Напалеон мае з трыумфам вярнуцца ў Варшаву з Сулеёўку, як Напалеон з вострава Эльбы...

— „Ці-ж так сама—на **сто дзён?**“ *) запытаецца хтось, хто чытаў пра францускага Наполена.

— Дзе там: куды менш!...

---

Вось лёгкі напаміне, як кажуць расейцы.

13 красавіка **прыяжджаў „прыватна“** ў Вільню п. Пілсудскі. Ходзяць чуткі, быццам тут адбыліся з мяйсцовымі выдатнымі і найвярнейшымі з усіх у Польшчы пілсудчыкамі вельмі важныя нарады.—Памажы-ж Божа! **Наглядчык.**

*) Ведама, што скінуты з трону саюзьнікамі Напалеон сьпярша пасаджаны быў у вастрог недалёка ад Францыі на востраве Эльбе, адкуль здалеў уцячы да краю і там працарстваваў яшчэ роўна сто дзён, пакуль аканчальна пабіты ня быў сасланы на далёкі адлюдны востраў сьв. Алены на акіяне.

# Новыя праекты „санацыі“.

На паседжаньні Рады міністраў 17 красавіка міністар фінансаў Зьдзеховскі падаў свой новы праект латаньня недахвату ў дзяржаўным бюджэце Польшчы. Да раўнавагі бюджэту бракуе, паводлуг пана міністра, 265 міліёнаў зл. Запраўды-ж сума недахвату будзе шмат большая, калі возьмем пад увагу, што аблічэньні вяліся міністрам пры курсе злотага 6.50 за доляр, а цяпер маем курс каля 10...

Чым пакрыць дэфіцыт? Абшарнікі і капіталісты вінны дзяржаве больш 700 міл.зл. **маёнтковага падатку**, дзяржава магла-б спагнаць з іх гэты доўг, але буржуазны міністар маўчыць аб гэтым. Ен навет успамянуць ня хоча аб старых даўгох пануючых кляс. Ен абдумывае затое новае абложэньне і так ужо даведзеных да жабрацкае торбы працуючых мас краю.

Першым чынам пан міністар думае дабраць 150 міліёнаў з падвышэньня амаль ня ўсіх падаткаў на 10 процантаў і з гарэлячнай манополіі. Ад гэтай дзесяці працэнтнай падвышкі звальняюцца толькі падаткі: маёнтовы, з лясоў ды мыты; інакш кажучы, звальняюцца ад іх абшарнікі, буйнейшыя гандляры і т. п. Далей праект накладае цэлы рад новых падаткаў—на сьвятло ў кватэры, дый ня толькі электрычнае, ці газавае, але навет на нафтовыя лямпы і т. п. Падвышаецца вельмі значна, бо аж напалову — аплата ўсялякага роду прашэньняў, уводзіцца павялічэньня аплаты за навуку ў школе, якая паводлуг конституцыі мусіць быць бясплатная, ды за ўсякія дакумэнты ад школаў і наагул міністэрства асьветы, якія навет у царскай Расеі былі вольныя ад усялякіх побораў. Акрамя гэтаго ўводзіцца „галоўшчына“ — 5 злотых ад галавы.

І капіталіст, ці абшарнік, маючы тысячныя даходы месячна, і галадаючы сялянін, ці работнік—тут „роўныя“...

Добра умеець лічыць пан міністар. Пры гэтакай „роўнасьці“ падаткаў працуючыя масы гінуць, а капіталіст, калі-б і заплаціў (хоць да гэтага часу дзяржава яго ня змушала!), можа сабе сьмяяцца з падаткаў.

Гэта ў галіне падвышэньня даходоў.

З другога боку ў галіне зьмяншаньня выдаткаў яшчэ выразьней праект латае дзіру ў дэфіцыце—скурай працоўных.

115 міліёнаў мін. Зьдзеховскі пастанавіў з‘эканоміць для скарбу коштам дзяржаўных працаўнікоў. На адной чыгунцы ў Польшчы маюць быць звольнены аж 18 тысяч урадоўцаў ды работнікаў. Апрача таго, утрымоўваюцца ў сіле абрэзаныя пэнсіі ўсім урадоўцам і касуюцца так зв. „множныя“—прыбаўкі на дарагоўлю. Да гэтага часу ўрад найбольш браў з сялян і работнікаў; цяпер прыйшла чарга і на працуючую інтэлігенцыю.

Праціў новага наступу буржуазіі мусяць выступіць працоўные масы усей Польшчы. Новы праект ратуець урад буржуазіі, але не гаспадарчае жыцьцё. Без аблажэньня капіталістаў—няма выхаду з крызісу. 700 міліёнаў доўгу з буржуазіі мусіць узяць урад!

*

На тым жа паседжаньні Рады Міністраў пэпэасы выставілі свой праект аздараўленьня скарбу; міністэрскі яны лічаць „бясстыднай карыкатурай аздараўленьня“ („Robotnik“). Яны, апрача павялічэньня на 85 міліёнаў маёнткова падатку, таксама маюць вялікія і шляхотныя надзеі на.... гарэлачную манаполію, бачучы ратунак польскага скарбу ў „дзяржаўных разлеўнях“, якія разам з іншымі манаполямі, таксама б‘ючы па кішані працоўнага спажыўца, маюць даць быццам—50 міліёнаў. Разам з падвышкамі да некаторых падаткаў і аплатаў—П. П. С. маняцца спагнаць з насяленьня ня менш 208 міліёнаў звышкі даходоў.

Дзеля зьмяншэньня выдаткаў П. П. С., адкідаючы ўсялякія абмежаваньні лічбы ўрадоўцаў і пэнсіяў ім, дамагаюцца „рэарганізацыі“, як цывільнай, так і вайсковай адміністрацыі, што быццам мае даць 60 міліёнаў.

Як бачым, і ў гэтым выпадку польская партыя так зв. „соцыялістаў“ ваюець толькі фразамі. Называючы „бясстыднай карыкатурай аздараўленьня“ праект міністра Зьдзэховскага, яна сама хоча зраўнаважыць бюджэт у большай яго часьці тымі-ж самымі падаткамі з шырокіх мас насяленьня. Раз дабраўшыся да карыта, правадыры П. П. С. не інтарэсы працоўных мас маюць у галаве, а свае партыйныя, дык і не адважаюцца выступіць з адкрытымі дамаганьнямі абаперці „санацыю“ на капіталістах і абшарніках, шукаючы выхаду для буржуазнага ўраду — коштам усё тых-жа працоўных...

Акрамя таго П. П. С. дамагаюцца ажыўленьня гаспадарчага жыцьця, крэдытаў, помачы безработным. Усё гэта добра, але адкуль іх узяць—гэтыя сотні міліёнаў? Ня можна сказаць, каб зусім нічога слушнага не казалі паны П.П.С. у сваіх прапазыцыях; але-ж у канцы канцоў яны прапануюць папросту друкаваць паперкі, як калісь друкаваліся нябожчыцы польскія маркі... гэта ня выхад, гэта немагчыма. ППС хочуць рабіць сабе толькі рэкляму пустымі фразамі.

Аздараўленьне жыцьця краю магчыма толькі пры разрыве з буржуазнай палітыкай, толькі пры аблажэньні пануючых клясаў. Ад барацьбы за гэта і трэба зачаць работу над аздараўленьнем бюджэту Польшчы.

# Радава-нямецкая маланка сярод яснага „лёкарнскага“ неба.

Запраўды, як пярун яснага неба, удэрыла па ўсей лёкарнскай кампаніі быццам ужо так салодка і згодна зьнюхаўшыхся дзяржаў вестка аб аднаўленьні між ССРР і Нямеччынай гандлёвага і агульнага саюзу.

Трэба сцьвярдзіць ізноў, што з боку радавай дыпляматыі аднаўленьне Рапальскага Трактату з Нямеччынай — перад верасьнёвай сэсіяй Лігі Народаў, на якую ўскладалі такія вялікія надзеі Чэмбэрлены і чэмбэрленчыкі ўсіх лёкарнскіх дзяржаў,—зьяўляецца вельмі вялікім пасьпехам. З боку Нямеччыны, якая толькі-што яшчэ раз—вуснамі Штрэзэмана паўтарыла, што, не ўвайшоўшы ў склад Лігі,, мае зусім разьвязаныя рукі,—гэты паварот да ССРР — няўхільны рэзультат скандальнага правалу апошняй сэсіі Лігі Народаў, а можа і яе—аканчальнага банкруцтва.

З другога боку, далейшае разьвіцьцё саюзу Нямеччыны з ССРР сьведчыць аб значным, калі не аканчальным, правале ўсей палітыкі Чэмбэрлена, які ўсе лёкарнскія сеці плёў дзеля таго, каб адцягнуць у іх Нямеччыну ад ССРР.

Нямецкая прэса зусім адкрыта піша, што для Нямеччыны саюз з ССРР — той козыр, які толькі і дасьць ёй магчымасьць **выйграць** у тэй лёкарнскай ці жэнеўскай ігры, у якой, наадварот, хоча **абыграць** Нямеччыну, калі не Чэмбэрлен, дык Брыян з сваімі „падпанкамі“...

Каб зразумець, наскольки ўзрасла за апошнія 3—4 гады самастойнасьць і міжнародавая сіла Нямеччыны, прыпомнім, як рэагавалі магутныя і грозныя саюзьнікі-пераможцы ў 1922 г ў часе Гэнуэзкай Канфэрэнцыі,—калі таксама блеснула першая маланка Рапальскага Трактату. Даведаўшыся 18-га каасавіка 1922 года аб падпісаньні гэтага саюзу між Нямеччынай, першы раз „дапушчанай“ на міжнародавую канфэрэнцыю з Радавай Расеяй, тады таксама першы раз паслаўшай у „Эўропу“ сваіх прадстаўнікоў — „для нагляду“,—„вялікія“ зьвярнуліся да старшыні канфэрэнцыі з супольнай нотай, у якой з абурэньнем сцьвярджалі, што няўдзячная Нямеччына бяз іх дазволу і бяз іх ведама заключыла трактат з Радамі, за што пазбаўляецца права... сядзець з імі разам за адным супольным сталом на Канфэрэнцыі.

Тады пад грознай нотай згодна падпісаліся ўсе 9 вялікіх і невялікіх дзяржаў, прымаўшых учасьце ў Канфэрэнцыі з Нямеччынай. Цяпер, ня гледзячы на ўсе забегі Брыяна, каб паслаць ізноў нейкую супольную англа-францускую ноту, англійскі ўрад абмежаваўся толькі „выражэньнем свайго суму“ з прычыны Трактату між Нямеччынай і ССРР.

Што-ж такое гэты адноўлены Трактат? За што так абурыліся лёкарнскія дзяржавы? Як можна судзіць з замежнай прэсы, Нямеччына і Радавая Расея абязаліся **ні ў якім выпадку не ваяваць адна з аднэй,** а ў разе выбуху якой вайны—захоўваць адна адносна да аднэй нэйтралітэт. А вось артыкул 16 Статуту Лігі Народаў, які, праўда, крыху ў зьмененай форме, мелі падпісаць немцы ў Лёкарно, **абязвае Нямеччыну памагаць, чым толькі яна можа, сябрам Лігі ў выпадку вайны, напрыклад—проці ССРР!** Знача, — іншымі славамі—аднаўленьне Трактату з ССРР у гэтым сэньсе—**поўная адмова ад Лёкарно з боку Нямеччыны!..**

Паўтараем яшчэ раз: гэта — зусім зразумелы і лягічны вывад Нямеччыны з факту правалу апошняй сэсіі Лігі Народаў. Не па сваей віне, але з віны перакруціўшага Чэмбэрлена Нямеччына не ўвайшла ў сакавіку ў склад Лігі Народаў. А калі не ўвайшла, дык, не ўвайшлі ў сілу і Лёкарнскія Трактаты. А ў восені, на верасьнёвай сэсіі Лігі, з Нямеччынай можна будзе дагаварывацца ўжо пры зьмяніўшыхся варунках, — бо толькі прымаючы пад увагу яе ўжо ўвайшоўшую ў сілу зьвязанасьць новым Трактатам з ССРР.

Тады панам Чэмбэрленам—хоч ня хоч—прыдзецца дапасоўвацца ўжо самім да новага стану рэчаў.

---

Далей ідуць, так-званыя тэхнікумы (сярэднія) і Вузы (вышэйшыя школы). Што тычыцца беларусізацыі, то тут справа стаіць горэй. Толькі малая частка прафэсароў валадаець беларускай мовай, а, значыць, і выкладаець пабеларуску толькі нязначная частка прафэсуры. З вышэйшых асьветных устаноў ёсьць Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Горацкая Сельска Гаспадарчая Акадэмія, Віцебскі Вэтэрынарны Інстытут і Рабфак. Вось больш-менш тое, што сёньня служыць для асьветы беларускага народу на Усходзе.

Быў у беларускай школе сямігодцы ў Менску. Вынес як найлепшае ўражаньне. Дзеці сьвядомыя нацыянальна і разьвітыя. Ня гледзячы на тое, што ўсе яны—дзеці мяйсцовага мяшчанства, якое ў большасьці варожа адносілася раней да ўсяго беларускага, гавораць дужа добра пабеларуску.

Наагул моладзь расьцець пэўная ў сэньсе нацыянальным і хутка выкінець за борт усю тую гніль і хлам, што асталіся з старых царскіх расейскіх часоў. Яшчэ некалькі гадоў — і можна спадзявацца, што і варожая йшчэ ў значнай частцы беларускаму руху прафэсура, будзе заменена сваей—нацыянальна-сьвядомай прафэсурай.

Што тычыцца матар‘яльных варункаў жыцьця настаўнікаў і прафэсуры, то яны розныя. У той час, як прафэсура атрымлівае часам і дужа вялікія стаўкі, вясковы настаўнік, як і даўней, атрымлівае навет меней за кваліфікаванага рабочага. Праўда, з кожным годам гэтыя варункі папраўляюцца і ўжо ў 1925 годзе найменьшая стаўка вясковага настаўніка дасягала каля 36 руб. у месяц. Апрача таго, зацьверджана Нар. Кам. Асьветы палажэньне аб льготах для сельскага настаўніцтва. Льготы гэтыя вось якія: 1) Надбаўка ня ніжэй 10 проц. да атрымліванай пэнсіі за кожныя 3 гады пэдагагічнай працы ў школе, ці ў дашкольных установах на вёсцы. Гэта працэнтная надбаўка павінна быць праведзена ў жыцьцё з 1/I 1926 г. 2) Бясплатнае надзяленьне работнікаў асьветы, на рахунак мяйсцовага бюджэту, кватэрай, апалам і сьвятлом у разьмеры 15 проц. атрымліванай асноўной пэнсіі. Калі няма кватэры, — то ўсё гэта аплачваецца грашмі. 3) Вясковым настаўнікам павінна быць дадзены падводы дзеля паездкі ў акружныя, ці райёныя цэнтры ня меней аднаго разу ў месяц, а таксама ня меней аднаго разу ў два месяца на валасныя канфэрэнцыі асьвятоўцаў. 4) Дзеці сельскіх настаўнікаў, сіроты і паўсіроты маюць права пастушленьня ў дзіцячыя сады, дзіцячыя дамы і інш. 5) Дзецям настаўнікаў, сіротам і паўсіротам павінна быць дадзена права пяршынства дзеля паступленьня ўва ўсе школы і вузы. 6) Вясковым настаўнікам павінна быць дадзена права 2-х месячнага одпуску кожны год, а таксама павінна быць забясьпечана памяшчэньне на час хваробы ў дзяржаўных курортах і санаторыях на кошт дзяржавы. Вось больш-менш усе льготы, якія ўводзяцца дзеля сельскага настаўніка. Таксама, як і рабочы, вясковы настаўнік пэвен у заўтрашнім дні і з вялікай ахвотай працуе над асьветай роднага народу.

Да ўстаноў, якія як бы падгатаўляюць дзяцей у школу, можна залічыць дзіцячыя дамы і гарадкі, а таксама і дзіцячыя сады. Гэтых устаноў у параўнаньні з такімі-ж установамі іншых нацыянальнасьцяў у беларусаў зусім мала. Так, напрыклад: дзіцячых дамоў і гарадкоў 32, а садоў толькі 11. Былі мы, паміж іншым, у адным дзіцячым доміку, які знаходзіцца пад кіраўніцтвам жонкі паважанага нашага песьняра Янкі Купалы. Уражаньне — як найлепшае. Дзеці добра адзеты, гуляюць у чыстых і цёплых пакоях. У вадным кутку бачым гліну, з якой дзеці лепяць розныя фігуркі; у другім — куча цацак. Дзеці вясёлыя, сьмелыя. Карыстаюцца даглядам некалькіх настаўніц. Такое-ж прыемнае ўражаньне зрабіў і дзіцячы гарадок. Занімае ён некалькі будынкаў. Дзеці ў школьным веку ходзяць на лекцыі ў суседнія сямігодкі. Ёсьць беларускі і польскі аддзелы. У апошнім чамусь і чысьцей і прыгажэй, і дзеці знаходзяцца ў значна лепшых варунках, чым у беларускім аддзеле. Тут, напэўна, адыгрываюць большую ролю іншыя чыньнікі, аб якіх мова будзе ніжэй. **пасол П. Мятла.**

(Далей будзе).

---

Разам з заказамі на танную беларускую кнігу ў сьнежні 1925 г. і студзені 1926 г. і яшчэ раней некаторыя з закашчыкаў па адрэсу былай Беларускай Кнігарні Завальная вул. № 7 прысылалі і грошы на гумарыстычны журнал „Авадзень“ у той час, як ён ужо ня выхадзіў. Гэтыя-ж падпісчыкі „Авадня“ ў сваіх лістох крыўдуюць, што прапалі і грошы і „Авадня“ не прысылаюць. Вось-жа Беларускае Выдавецкае Таварыства, якое ўтрымлівала кнігарню перш на Завальнай вул. № 7, перанесеную на Вострабрамскую вул. № 1, разьясьняе заінтэрасаваным грамадзянам, што прыймо былым кнігаром Станкевічам падпісных грошаў на „Авадня“ было яго асабістай справаю, а ня Кнігарні Таварыства і за лёс гэтых грошаў адказвае ён асабіста і ў гэтай справе трэба зьвяртацца да яго, грам. Станкевіча—Завальная 7.

**Урад Белар. Выд. Т-ва**

дзтва, працавала амаль не ў-ва ўсіх паштовых акругох Польшчы. Як сьцьвярджае паўафіцыяльнае паведамленьне ў мяйсцовых газэтах, пасьпех апэрацыяў банды аблягчаўся — няздарнымі правіламі і парадкамі на пошце.

**„Маланка“.** 15-га красавіка выйшаў № 9 гумарыстычнай часопісі „Маланка“. Нумар мае вельмі прыгожы выгляд і багаты зьмест.

Часопісь з кожным разам заваёўвае належнае месца сярод найлепшых эўрапэйскіх часопісяў гэтага тыпу.

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва дзякуе за ахвяраваныя для музэю Ів. Луцкевіча рэчы: 1) грам. Кепэлю—за старасьветны бронзавы складзень і 9 манэт; 2) грам. С. Станкевічу—за 2 манэты.

**Афіцыяльны курс грошы на 22 красавіка.** Даляр — 9 зл. 90 гр. Залаты рубель — 5 зл. 05 грошы.

22. IV. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10 зл. 60 грош.

## Справаздача аб вулічным зборы на карысьць беларускіх дзетак, які адбыўся 6-га красавіка 1926 г.

Камісія для аблічэньня ахвяр, сабраных у дзень 6-га красавіка 1926 г. на карысьць прытулку для сірот і дзяцей бедных бацькоў, які ўтрымоўваецца ў Вільні на Вастрабрамскай вул. № 9 Камітэтам Беларускага Т-ва помачы пацярпеўшым ад вайны, падлічыла ахвяры, якія выразіліся ў суме тысяча трыста два злотых і 70 грош. (1302 зл. 70 грош.). Апрача таго, у чужаземнай валюце: 1 палціньнік СССР, 2 шт. па 10 кап., 1 шт. діма амэр.; нямец. манэты 1 шт. 25 пфэн., 3 шт. па 10 пфэн., 1 шт. 2 пфэн., 1 шт. 1 пф. Расходы па збору выразіліся ў суме 6 зл. 95 грош. Чысты даход, такім чынам, з зборкі 6/IV 1926 году выразіўся ў суме 1295 зл. 75 грош. Усім грамадзянам і грамадзянкам, прыймаўшым учасьце ў зборцы Камітэт прыносіць шчырую падзяку.

**Скарбнік Камітэту**
**І. Савіцкі.**

## З жыцьця Горадні.

× **Палітычны працэс.** 30 сакавіка 1926 г. акружны суд у Горадні разглядаў справу Ігната Вагнэра, абвінавачанага з арт. 102 часьць II, у распаўсюджываньні камуніст. літэратуры, брашуры „Жыцьцё Леніна“ і інш., знойдзеных у абвінавачанага, а таксама ў імкненьні да замены сёньняшняга дзяржаўнага ладу на савецкі.

Старшынёй суда быў Матусевіч, судзьдзі: Парчэвскі і Александровіч. — Абвінавачываў падпракурор Кораб Карповіч. Бараніў адвакат з Варшавы Брэйтэр.

Суд, разглядзеўшы справу і папытаўшыся сьведкаў, Вагнэра апраўдаў, а літэратуру „Жыцьцё Леніна“ і інш. пастанавіў зьнішчыць.

× **Для сябе ўсё, але ж для рабочага нічога!** Ужо ад 1924 г. перастаў істнаваць у Горадні саюз тартачных работнікаў, дык вось 27 сакавіка 1926 г. тартачныя работнікі ў салі клясовых саюзаў зрабілі агульны сход для аб'яднаньня ў свой клясавы саюз. На агульны сход быў запрошаны б. сэкрэтар дравянога саюзу К. Рукша. Агульны сход быў назначаны на першую гадзіну, але-ж дзеля таго, што „вядомы дзеяч на горадзенскім бруку“ сэкрэтар Рады клясовых саюзаў М. Гонэрко (ППС) на сход не зьявіўся, сход распачаўся ў 2 гадзіны, і адчыніў яго п. Заман!

Работнікі, прачакаўшы ўжо болей, як гадзіну, пачалі навет разыходзіцца.

Калі ў 2 гадз. быў адчынены сход, на старшыню сходу быў выбраны аднагалосна гр. К. Рукша. Старшыня Рукша зрабіў даклад сходу аб былым саюзе да 1924 г., а таксама аб патрэбе з'арганізаваньня цяперака тартачных рабочых у новы клясавы саюз.

Пасьля дакладу і абмену думкамі была выбрана арганізацыйная камісія з 7 чалавек, якая павінна распачаць працу дзеля з'арганізаваньня клясовага саюзу тартачнікаў. Астаўся апошні пункт: бягучыя справы. Але ж у гэты мамэнт зьявіўся пэпэсавец Гонэрко і, убачыўшы, што сход без яго ўжо справу вырашыў, накінуўся на старшыню схода К. Рукшу, кажучы: „Ці ня ведаеце, што я — гаспадар салі“? ды патрэбаваў, каб старшыня Рукша выйшаў вон з салі, бо толькі ён, Гонэрко, як ППС, мае права весьці сход.

Старшыня заявіў, што, калі гэтага зажадаюць рабочыя, дык ён выйдзе і зрачэцца старшынства. Але-ж у абарону старшыні ў гэны самы мамэнт сярод рабочых пачаліся крыкі і пратэсты проціў паступкаў пэпэсаўца Гонэркі, да якога ўсе аднясьліся вельмі варожа. Яму рабілі вострыя закіды ў паступках, зусім недастойных „абаронцы рабочых“, якім Гонэрко сябе выстаўляе.

Дзеля таго, што галоўныя справы былі ўжо вырашаны, дык пры бягучых справах, якіх Гонэрко ня даў дакончыць, работнікі ў знак пратэсту разыйшліся.

Вось як горадзенскія пэпэсаўцы „арганізуюць“ рабочых у Горадні! **Бізун.**

## ПРАГРАМА
## Белар. Сялянска-Работніцкае Грамады.

У нумары 9 „Бюлетэня Соймавага Клюбу Белар. Сялянска-Работніцкае Грамады“ апублікавана праграма гэтай арганізацыі, запраўды-ж іграючай кіруючую ролю ў палітычным жыцьці Заходняе Беларусі.

Апублікаваньне яе дасьць нашаму сялянству і працоўным места магчымасьць паўней выясьніць сабе той шлях, які вядзе іх да волі. У наступных нумарох мы пастараемся падробна растлумачыць галоўныя пункты гэтае праграмы, а так-жа даць вычэрпываючыя інфармацыі і інструкцыі, як трэба тварыць па вёсках, мястэчках і местах арганізацыі Грамады, як зьвязацца з партыйным цэнтрам і як прылажыць сваю руку да зьдзейсьненьня тых задач, якія стаўляе сабе працоўная вёска і працоўнае места Заходняе Беларусі.

Але мала таго, каб вёска пазнаёмілася з намечанай яе павадырамі праграмай: трэба, каб яна **крытычна** аднеслася да гэтае праграмы, каб падала свой пагляд на праграму ў яе цэлым і на паасобныя пункты яе. Мы ахвотна дамо мейсца гэткім водгукам з вёскі на праграмныя пытаньні нашага руху і заклікаем сялян і работнікаў прысылаць свае думкі і ўвагі да праграмы.

# Карэспандэнцыі.

### Як „гаспадараць“ асаднікі.

(Пархвенаўшчына, Дзісьненскі пав.).

Каля вескі Лібараўшчына і Целяшоў, Пархвенаўскай гм. Дзісьненскага пав., быў кусок дворнай зямлі каля 30 гэкт. „Urząd Ziemski“ аддаў яго вайсковаму асадніку Чарапкоўскаму, які з 1919 году пайшоў ахвотнікам у польскае войска і служыў, як „wywiadowca“, у другім аддзеле штабу. За гэту службу ён і дастаў „асаду“. Аднак, атрымаўшы зямлю, сам на ёй ня сеў, як гэта вымагае прыгожа напісаны закон аб асадніцтве, але на зямлю пасадзіў брата з бацькам, а сам і цяпер служыць у войску, як прафэсіянал, дзе дастае пэўна-ж і пэнсію. Гэта, аднак, не прашкаджае яму атрымовываць бестэрміновыя пазыкі і дапамогі з Польскага Зямельнага Банку на будынак, таксама і дрэва на гэта з лясьніцтва, якое часамі яго брат навет прадае. Але на гэтым усё ня скончылася. Гэты п. Чарапкоўскі апрача ўсяго гэтага дастаў ад вайсковых уладаў і коні. І гэтага ніхто з „Kontroli Państwowej“ ня відзіць.

На ўсход ад мястэчка Даўгінава, у кірунку к граніцы з Беларускай Радавай Рэспублікай і не далей, як у двух кілямэтрах ад яе, распарцэлявалі паміж „былымі“ вайсковымі двор Даўгінава. Большасьць парцэляў па 40 і больш гэктараў дасталася п. п. афіцэрам і падафіцэрам. Зямля там прыгожая і ўраджайная, як рэдка дзе на Беларусі. Але гэтых вайсковых асаднікаў яна, відаць, мала цікавіць, калі яе так ці і іначай ня можна прадаць.

Пабудаваўшы на гэтых землях дзеля прыліку сякія-такія хібаркі, ды і то за „бестэрміновыя пазыкі“ і дапамогі са скарбу, большасьць гэтых асаднікаў“, зямлю пааддавалі ў арэнду, а самі і далей служаць у войску і пэўна ж не дарма. Праўда, калі спытацца ў гэтых арандатараў, на якіх правох яны сідзяць на гэтай зямлі, праве кожны з іх адкажа вам, што ён — запашнік (робіць зямлю за палавіну ўраджаю). І гэтага таксама ня відзе ані „Urząd Ziemski“, ані „Kontrola Państwowa“. Няма нічога дзіўнага, што ніхто з „Dygnitarzy“ ня відзе і тых асаднікаў, якія, як пісалася ў адным з нумароў „Беларускай Нівы“, парабіліся вучыцялямі, пісарамі гмiннымі, войтамі і канфідэнтамі паліцыі.

А для беларускіх сялян дык зямлі як няма, так няма!... **Б. Свой.**

### Вясна на вёсцы ў Заходняй Беларусі.

(В. Салакоўчшына, Іодзкай гм., Браслаўскага пав.).

Прышла вясна—прырода ажыла, усё ўсьмяхаецца, весяліцца... Толькі наш селянін-беларус ня мае пацехі, ані радасьці, бо з яго выціскаюць апошні ўжо сок...

Выйшаў я на ганак, каб паўглядацца на вясну, дыхнуць свабадней сьвежым паветрам,—птушкі пяюць, шчабечуць. Сяджу, аж раптам, падыходзіць солтыс, — нясе „nakaz płatniczy“, а ў мяне ні граша! Тут-та і вясна прапала,—увачу пацямнела...

Пайшоў я на сход у вёску, каб парадзіцца, што рабіць. Там сяляне кажуць, што трэба ў лес ехаць — зарабіць. Здумаў і я, што маю зароблены ў купца 17 зл. за звозку таварнага лесу на ваду; былі і другія, што мелі зароблены грошы.

Паехалі мы ў лес па грошы. На шчасьце прыехаў купец—вось, заплаціць грошы. Аж раптам зьявіўся нейкі тып і кажа, што грошы „заарыштаваны“, бо купец не заплаціў лясной даніны.

Купцу, відаць, гэта было і на руку, але абяцаў, што 19/III выплаціць.

Прыехалі мы 19/III, а купца няма, няма і грошай. Зарабілі, а грошай ня вырвеш, купец дзесьці ўжо заграніцай.

Вось і жыцьцё! Свайго не аддаюць, а падаткі цягнуць.

Тут і дрыжыш, каб не забралі апошняй кабылкі, або апошняга пудзіка, што галадаючы пакідаў на насеньне, дрыжыш, каб хоць абсеяць, каб не памерці на будучы год з голаду.

Вось і вясна! Замест радасьці і вясельля, хоць ты павесься, каб ня жыць, не цярпець!..

Вось якая для нас вясна!..

**Беларускі селянін.**

### „Адбудова“ Заходняе Беларусі.

(З Стаўпецкага пав.).

Даволі пікантныя справы робяцца ў нашым Стаўпецкім павеце.

Працавала тут нейкая варшаўская кампанія „Корытковскі, Галэнзовскі і К-о“ пры будове пагранічных вартоўняў. Работа кіпела, — наймалі сялян, служачых, здавалі падрады і г. д. Ды некалькі вартоўняў сяк-так пабудавалі.

Але выплату грошы работнікам, служачым і за ўзятыя ў гандляроў тавары — нешта ўсё адцягавалі. Урэшце, нікому нічога не заплаціўшы, счэзлі недзе і Корытковскі і Галэнзовскі і ўся гэная фірма, не пакінуўшы, апрача неаплочаных даўгоў, ніякіх іншых сьлядоў па сабе...

Людзі, якіх гэная кумпанія пакрыўдзіла, ходзяць, апусьціўшы рукі, ня ведаючы, куды ткнуцца і як даходзіць свайго.

Здавалася-бы, што ўлада, якая дае свае заказы розным варшаўскім прадпрыемцам, павінна парупіцца і аб тое, каб сваім даверыем да гэных паноў не ўвадзіць у страты працоўных людзей. Ды неяк ня відаць, каб хто парупіўся вышукаць ашуканцаў і пацягнуць іх да адказнасьці. Праўда, бачучы, што сярод тутэйшага жыхарства страшэнна накіпела злосьць на гэных нягоднікаў, староства, каб супакоіць людзей, адкрыла рэгістрацыю пацярпеўшых і іх страт. Але на гэтым пакуль-што ўсё і затрымалася.

Тут кажуць, што паны Корытковскі і Галэнзовскі дасталі гэны падрад на вартоўні на вельмі выгадных для іх варунках, дык мусілі-б добра зарабіць. Дык-жа грошы, плочаныя ўрадам, прапіваліся па рэстаранам, і ўрэшце аказалася нястача значнае сумы. Вось гэтая сума і аказалася пакрытай з нашага сялянскага мазаля: за нашу крывавую працу добра пабавіліся наездныя варшавякі....

Сьцеражыцесь, людцы, гэткіх „налётчыкаў“!..

**Ф. Сьвержанскі.**

### Войт—злодзей.

(Чычавічы, Лунінецкага пав.).

Усім ведама, што гмінны самаўрад толькі на паперы „вядзецца“, а на дзеле гэта „тое“, — што захоча зрабіць п. Староста. — Калі дзе і станецца так, што сяляне выбяруць самы войта, то староста не зацьвердзіць, а назначыць „свайго чалавека“.

Якія-ж гэта войты з „сваіх“ пану старосьце людзей, сьведчыць наступны факт.

Войт нашай гміны п. Барысюк растраціў, п'янствуючы з папом і камандантам паліцыі, каля 5,000 зл. На першы дзень каталіцкага Вялікадня гэты войт завёў грамафон і пад гукі хаўтурнага маршу пусьціў сабе кулю ў вісок.

Насьцягаў ён падаткаў з сялян, а многім і квіткоў ня даў, так што, відаць, прыдзецца другі раз плаціць. — Войту сьмерць, а сяляне — цярпі за яго грахі.

Вось наш „самаўрад“, вось якія войты пана старосты! **Беларус з-пад Лунінца.**

### Дзе ня кінь — усюды клін.

(Ятра, Навааградзкага пав.).

Наш ацец К. Савіч, як спаткае каго з нас сялян, то толькі лаецца, што людзі да царквы ня ходзяць, Богу ня моляцца, а то яшчэ прыпомніць, што яму той вінен за трэбу, і пачне вымагаць; нагаворыць розных прыкрасьцяў, а часамі і паліцыяй пагражае! А за трэбы дзярэ страшэнна! Нядаўна памёр селянін, дык удава дошчак на труну ня мела—сяляне—суседзі далі; — а поп Савіч не паехаў хаваць яго, покуль удава не пазычыла 6 пудоў збожа, якія вымагаў „бацюшка“ за пахаваньне.

Усе на нас,—„свае“ і чужыя. — Няма куды павярнуцца! Няма з кім разумнейшым слова загаварыць! Адно пацеха, што зьбярэмся, ды пачытаем нашую беларускую газэту, даведаемся, як жывуць нашыя браты. **Вясковы.**

### Цяжкае жыцьцё.

(Кастравіцкая гм., Слонімскага пав.).

Цяжэнька жыць нашаму брату, Няма сьвятла няма патрэбнае духовае стравы. Родных беларускіх школ не даюць, у польскіх вучаць блага. Адно, што нас карміла і пацяшала: гэта „Беларуская Ніва“, якую нашыя сьвядомыя хлапцы выпісвалі, але што за гэта даставалі! Што зносілі!—каб людзі добрыя ня ведалі.

Напрыклад, М. Скок з в. Едначы колькі мае пагрозы і вобыскаў! за кожным крокам сачаць, куды ходзіць, хто да яго ходзіць і г. д. Найболей тут выслужыліся паліцыянты Бенько і Дудак.

А хто атрымоўвае газэту з пошты — колькі пагрозы! Што за гэта будуць караць; што палітычная паліцыя загадала не аддаваць беларускіх газэт, і г. д.

Ох, жыцьцё! Каб ты гэтае ніколі не вярнулася!..

**Бедны Селянін.**

### Як спаганяюць падаткі.

(В. Гаркавічы і Юраўляны, Юраўлянскай гм. Сакольскага пав.).

Як мы,—зьнішчаныя вайной, — адбудоўваліся, то тады ніхто гэтага ня бачыў—не памагаў, а цяпер дык спаганяюць непамерныя падаткі і ня пытаюцца: маеш ці ня маеш чым плаціць.

І вось як гэта адбываецца.

9 га красавіка сёл. году прыехалі ў [в. Юраўляны паліцыянты і нейкісь закуцьнік, узялі солтыса гэтай вёскі і пачалі „зьбіраць падаткі“. Грошай сяляне ня мелі, дык забіралі паліцыянты, што папала. У Юстыны Кісель палезьлі на падстрэшша і там з куфра забралі палатно, цзьве вялікія хусткі і паўпальто, ды яшчэ рэчы сусецкі, што ляжалі там-жа.

У Андрэя Цітка была замкнёна каморка, дык забралі ў яго цялушку з хлева і аддалі тады, калі селянін, раздабыўшы грошай, прынёс падатак.

У Вінцука Цітка забралі швальную машыну, бо больш нічога ня было ўзяць.

У Паўліны Садоўскай забралі чаравікі, шэсьць спадніцаў, 3 пары нагавіцаў і тры каптаны.

У Янкі Кісяля забралі апошні кажух.

У Янкі Геляня знайшлі толькі 4 пуды жыта і 1 пуд сачэўкі—і гэтае забралі; тут падняўся вялікі плач і лямант, але нічога не памагло.

Зайшоўшы ў хату Сьцяпана Усьцілкі, засталі толькі кабет і пачалі забіраць лепшыя рэчы. Кабеты паднялі плач. Тады паліцыянты падпёрлі ружжом дзьверы і пачалі біць кабет. Каля хаты пачаў зьбірацца народ, дык паліцыянт Дамброўскі выбег надвор і закрычаў: „разыйдзецеся“. Але сяляне не разыходзіліся, выяўляючы сваё абурэньне.

Паліцыянт Дамброўскі наляцеў на пажылую кабеціну Марыю Бароўскую і зьбіў яе з ног, — кабета моцна пабілася.

Акрамя ўсяго гэтага паліцыянты напісалі пратаколы на: Аляксандра, Надзею і Сьцепаніду Матусевічаў, на Марылю і Аляксандра Бароўскіх, на Марылю Белакоз, на Паўліну Садоўскую, на Галену Кісель і Настулю Гелян. **Малавучаны Беларус.**

## Абшарнікі пануюць.

(В. Жыдомля, Горадзенскага пав.).

Ужо ведама, што царква якая была ў вёсцы Жыдомлі, забрана пад касьцёл, але-ж дзеля таго, што там налічваецца ўсяго „паўтара“ шляхціцца-каталіка, дык няма зусім патрэбы быць ксяндзу на такім малым прыходзе.

Цяперака ў кожнага зьявіцца пытаньне, што сталася з зямлёю—18 дзесяц., якая належала да царквы, а цяпер з 1924 г. належыць да касьцёлу без парафіі? Гэтаю зямлёю апякуецца „Urzęd Ziemski w Grodnie“ і камісар зямельнага „ўжэнду“, замест таго, каб аддаць сялянам—аддаў гэную зямлю ў арэнду абшарніку Залеўскаму з аколіцы Талочэк, Жыдамл. гміны, які мае сваей уласнай зямлі 100 дзесяц. Вось, як бачыце, каб гэную зямлю атрымаў малазямельны ці беззямельны, дык мог як небудзь жыць, а то цяперака гэны пан Залеўскі сам будзе здаваць у арэнду сялянам і колькі захоча, гэтулькі будзе браць. **Нёман.**

## Бяруць як найбольш.

(В. Абухава, Жыдамлянскай гм., Горадзенскага пав.).

Асаднікі адкрылі ў маёнтку Будоўля „Bank Spółdzielczy“ і даюць пазыку на грошы сябрам гэнага банку.

Вось сяляне акружных вёсак Абухава і інш. пасьля ваеннай разрухі маюць вялікую патрэбу ў грашох і, даведаўшыся, што банк дае пазыкі ўраз-жа пачалі пазычаць грошы. Зразу трэ заплаціць 25 зл. сяброўскіх. Але ж ад гэнай пазыкі сталася ім не салодка, бо банк бярэ, як хто спадабаецца, ад 28 проц. да 33 проц., і сёньня яшчэ ня могуць справіцца з такімі высокімі працэнтамі на якія прыходзіцца прадаваць усё, што ёсьць; ды ў дабавак, калі не заплаціш такіх працэнтаў у срок, дык каморнік зліцытуе.

І ўеўся гэны банк нам, як косьць у горле!

Хочам ведаць, ці мае права банк браць такія працэнты ад 28 проц. да 33 проц.

## Асаблівы „патрыёт“.

(З Горадзенскага пав.).

Вось, што здарылася ў нашым касьцеле ў Вялікіх Эсмонтах на другі дзень Вялікадня. Перад самаю імшою, калі народ гурмою сьпяшаўся да касьцёла, кс. Цэраўскі, узыйшоўшы на амбону, пачаў сваю прыватную гутарку. Гаварыў ён аб усім, але найменш аб Хрысьце. Перад усім загадаў братчыку зачыніць дзьверы. Калі-ж людзі, уваходзячы ў касьцёл, адчынялі дзьверы, дык ксёндз сярдзітым голасам закрычаў „zamknąć drzwi“. Далей кс. Цэраўскі пачаў папросту лаяць усіх тых, хто не астаецца ў касьцеле пяяць „Boże coś Polskę“. Справа ў тым, што па аканчаньні імшы ксёндз па адчытаньні малітваў за Прэзыдэнта загадаў пяяць вышэйпамянуты гімн. Дык вось парафіяне, ідучы ў касьцёл маліцца, а не рабіць патрыятычныя „маніфэстацыі“, ня хочуць быць у касьцеле пад час пяяньня „Boże coś Polskę“. Дык кс. Цэраўскі і паставіў братчыка каля дзьвярэй, які нікога не выпускае з касьцёлу, пакуль не прапяяюць „Boże coś Polskę“. Больш рашучыя адзінкі, ведама, ня надта слухаюць гэткіх выбрыкаў свайго пробашча, ну, дык у той час бяда ім: бо ксёндз з амбоны іх брыдка лае, называючы іх бальшавікам, лайдакамі і г. д. **Наднёманец.**

**Ад Рэдакцыі.** Кс. Цэраўскі да вайны жыў у Вільні і быў ведамы сваімі немаральнымі „донжуанскімі“ паступкамі. Цяпер, відаць, старыя грахі стараецца пакрыць „патрыятызмам“....

## Вось як урадуе сэкрэтар гміны.

(Вяліка-Эсмонтаўская гм., Горадзенскага пав.).

У сакавіку 1926 г. ўдава — старая жанчына з вёскі Рымуцеўцы, Гадлеўская Аўдоця, атрымала павестку на грошы, якія выслаў для яе з Адэсы Рыгор Аўдзейчык.

Удава Гадлеўская зьявілася ў гміну да пісара п. Домброўскага, каб атрымаць грошы, але-ж пісар заявіў, што трэ з гэнаю павесткаю пайсьці на пошту ў Індуры, дзе выдадуць грошы, дзеля таго, што яна старая, то заявіў, што ўсё гэта зробіць пісар сам, і забраў павестку. Вось, за два дні зьявілася Гадлеўская да пісара Дамброўскага, каб атрымаць высланыя грошы, але-ж пісар заявіў, што ніякіх грошай няма, а толькі ёсьць пісьмо з Адэсы.

Тады Гадлеўская, сама пашла на пошту ў Індуру і зрабіла спраўку, дзе аказалася, што пісар Дамброўскі атрымаў яе грошы, але-ж забраў сабе, а ёй толькі аддаў пісьмо. Начальнік пошты Індура заявіў паліцыі, якая зрабіла пратакол на Дамброўскага.

Вось табе і сэкрэтар! Бячэ грошы чужыя і сядзіць яшчэ ў гміне, ды йшчэ грошы беднай, старэй удавы, якая ходзіць і жабруе па вёсках!.. **Нёман.**

## „Яснавідзец“.

(Малая Бераставіца, Горадзенскага пав.).

Кіраўнік Мала-Бераставіцкай 2-х клясавай школы—п. Юзэф Вівёрскі — хіба кожны дагадаецца—паходзіць з... Галіцыі. — Ён „вучыць“ нашых дзяцей.

У нашай гміне жывуць толькі праваслаўныя беларусы,—каталікоў-жа толькі адна ваколіца. — „Вучыцель“ Ю. Вівёрскі на лекцыях ня вучыць дзяцей, але сее паміж імі нязгоду і дзікія і дурныя погляды. Так—ён у школе дзецям кажа, што беларусаў тут зусім няма, а ўсё палякі; кажа — што за 50 гадоў ня будзе ніводнага беларуса, а за 100 гадоў ніводнага праваслаўнага. Кажа: „беларусы нашы ворагі“.

Так, паночку, за 50—100 гадоў многа чаго ня будзе, што цяпер ёсьць і многае будзе, чаго цяпер няма; але ці гэта будзе паводле вашага рацэпту, то мы дужа сумляваемся, бо гэта залежыць болей **ад нас**, а не ад вас. Ворагі ж мы тых, хто нашы ворагі, бо і мы-ж мусім бараніцца!

Вы, паночку, у свае дваццаць пару гадоў сталі на дужа сьлізкую дарогу. Лепш вы выкіньце з сваей нясьпелай галавы гэтую дурнату, кіньце розную брахню і брыдоту, а самі падучыцеся і прыглядзьцеся да жыцьця, то ўгледзіце, што ня ўсё такое на сьвеце, як вам гэта выдаецца праз вашы зялёныя акуляры. **Хлопец.**



## Паштовая скрынка.

**Малавучонаму брларусу, Юраўскай гм.** — калі яшчэ прышлеце карэспандэнцыю без свайго прозьвішча — то ня зьмесьцім. Трэба падаваць свой адрэс і прозьвішча для ведама толькі рэдакцыі.

**Грам. Аркадзю Цітовічу.** Вашай карэспандэнцыі зьмясьціць у нашай газэце ня можам. Прыемна, што Вы маеце гэткія пагляды і імкненьні і надзею на лепшую будучыну. Пішыце аб жыцьці-быцьці Вас акружаючых вёсак.

**Грам. Мікалаю Харэцкаму.** Газэту Вам вышлем.

**Беларуская Кнігарня** — Вільня, Вострабрамская № 1 (перанесеная з Завальнай № 7), дзеля выкананьня заказаў на танную беларускую кніжку і адрыўны календар 1) просіць грамадзян К. Захаржэўскага з Жынкаўшчыны, Ясінскага з Лэнчыц, П. Клімовіча з фальв. Ксавэрава, Кішкеля з м. Навасёлкі Горадз. пав.—паўторна прысласць у кнігарню сьпіс прошаных кніг, бо першы не па віне кнігарні дзесь загінуў; 2) грам. Ігната Лук'янёнка з Чэранкоў просіць прыслаць паштовы квіт на 4 зл. 25 гр.; 3) грамадзян: М. Вінцукевіча і Ф. Богдэля з Ахонава, Крупніка з Залесься, І. Балаша з Целяшоў, Ю. Наруша з Пасутычаў, М. Бэкіша з в. Літвы, І. Пытляка з Ягневіч, А. Кішэня — просіць паведаміць кнігарню, ці ўжо атрымалі прошаныя кнігі; 4) грам. Перахода Вінцэнтага з Новай Мышы просіць прыслаць усе грошы, або задатак за прошаныя кнігі; 5) грам. Здашэвіча просіць выслаць грошы на прошаныя кнігі і дакладны адрэс; 6) грам. І. Пэрдэню з Руднікоў — просіць паведаміць ці высылаць прошаныя лемантары, дзеля аканчаньня школьнага года і калі выслаць, то каб прыслаў або ўсю вартасьць кніг абс задатак.

**Атрымана:**

Ад:—Трахіма Асіповіча, Тодара Будавея, Рамана Старкоша і Канст. Галавача—**па 1 злоту.**

Ад:—Паўліны Дуброўскай, Мікіты Асаевіча і Вінцука Гецэвіча—**па 1 зл. 50 гр.**

Ад часу апошняга нумару „Беларускай Нівы“, атрымана:

Ад — Мірона Танкавіча, Мікалая Шымановіча, Уладзіміра Крэня, Сяргея Пісарэвіча, Юліяна Дарашкевіча, Рамана Беганскага, Андрэя Войтуса, Сьцяпана Герасімовіча, Антона Савіцкага, Міхала Бароўскага, Яна Горскага, Ігната Лоўчага, Яна Балаховіча, Дзяніса Чыгрына, Ігната Рамука, Міхала Гацка, Яна Брыля, Пятра Лісоўскага, Яна Ізоіткі, Н. Барысіка, Андрэя Міхальчыка, Яна Матусэвіча, Канстан. Каруноса, М. Вяршыцкага. Язэпа Цыунэля, Міхея Грынка, Паўла Жэбелева, Яна Рагоўскага, Андрэя Пугача, Міхала Галенды, Аляксея Мігаля, Рыгора Палуйчыка, Андрэя Маляўкі, Міхала Бабілы, Вінцэнтага Балта, Міхала Сайчыка, Паўла Сержэня, Сяргея Багданчука, Пятра Мароза, Сьцяпана Жызьнеўскага, Аляксея Жука, Т. Бурачука, Мікалая Озябла, Аляксандра Каўбаскі, Аляксандра Слакатовіча, Яна Забельскага, Мікалая Уласавіча, Пятра Бабарыкі, Я. Смыка, Мікалая Марчука, Міхала Задолі, Аляксандра Грэся, С. Бурлыкі, Сьцяпана Мятлы, Яна Анішчыка, Аляксандра Клімашэўскага, Мікалая Башкевіча, Р. Усіка, Яна Жука, Яна Жарскага, Віктара Белазерскага, Яна Валынца, Пятра Гульніцкага, В. Бухі, Яна Кліма, Тодара Бубена, Мірона Балдоўскага, Базыля Кашуры, Базыля Шпака, Міхала Казарэза, Мікалая Жыня, Антона Крывапуста, Сінкевіча, Мікіты Казла—**па 2 злотых.**

## Юрыдычныя парады.

**Падпішчыку № 1968.** Не.

**Грам. І. Кучуку.** На Вашае запытаньне трудна даць адказ у газэце, трэба Вам зьвярнуцца да адвакага.

**Грам. Мардзіловічу.** Мелі-б права, каб сын брата памёр у Расеі, або каб мелі ад яго даверанасьць.

**Грам. Літвінчыку.** Мае сілу, варт 10 злотых.

**Грам. Трашчотцы.** Трэба ведаць, якога банку купон і кніжкі.

**Грам. В. Бонану.** *Запытаньне*: Я маю закладныя лісты Віленскага Зямельнага Банку. Ці маюць яны вартасьць?

*Адказ*: Трэба зьвярнуцца ў банк і абмяніць на новыя і можна прадаць.

**Падпішчыку № 1657.** Маеце права на 1/7 частку бацькаўшчыны.

**Грам. М. і В. Янэлям.** На дзядзькаву зямлю права ня маеце, хіба ён прыслаў Вам даверанасьць.

## Усячына.

### У Амэрыцы адзін злодзей на 55 чалавек.

Адзін з амэрыканскіх абыватэляў падлічваў у працягу году лічбы пакраж, якія праводзіліся ў хроніцы здарэньняў. Выявілася, што за 1925 год рабункі і пакражы ў Амэрыцы складаюць лічбу ў 10 міліярдаў даляраў.

Гэта больш, чым усе ваенныя даўгі Эўропы Злучаным Штатам.

— Гэты-ж абываталь падлічваў хроніку рабункаў 10 год таму назад, у 1915 г. Тады гадавы „балянс“ злачынстваў проці ўласнасьці складаў толькі 6 міліярдаў даляраў. Зараз, такім парадкам, мы бачым павялічэньне на цэлых 4 міліярды. Гэта ў 12 раз больш таго, што траціць Амэрыка на ўсю армію і флёт.

У апошні час злачыннаму сьвету ў Штатах робіцца самае ўважлівае статыстычнае падагуленьне. Устаноўлена, што на 110 міліёнаў усяго жыхарства Штатаў ёсьць ня менш 2-х міліёнаў зарэгістраваных злачынцаў.

Такім парадкам, на кожных 55 чалавек у Амэрыцы прыпадае 1 заклеймаваны злодзей.





Рэдактар-Выдавец: **Ал. Вільчыцкі.**

**Друкарня Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.